



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

25 красавіка 2014 года №17 (991)


**Чым Еўропа можа дапамагчы Беларусі?**
Беларусь на міжнароднай арэне праз расстрэл вяйя- чаніна
старонка 20



**Як некаторыя сям'і даводзяць дзяцей да педафілаў і порнасайтаў**
Гвалт у сям'і: чаму пра гэта маўчаць і чаму маўчаць НЕЛЬГА
старонка 6

**Ашмяны пашыраюц-ца на захад**
с. 2

**75-гадовы мужчына не вытрымаў стрэсу і памёр пасля рабавання**
с. 4

**Падлеткаў асудзілі за пашкоджанне мемарыялу ў Куранцы**
с. 4

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### У каманды “Маладзечна -2013” – новы трэнер

**МАЛАДЗЕЧНА.** **Дзяніс Мятліцкі** пакінуў пасаду галоўнага трэнера ФК “Маладзечна-2013” па стане здароўя. Пра гэта “Рэгіянальнай газеце” паведаміў дырэктар каманды **Аляксандр Любанец**. – Дзяніс сам вышарыў пакінуць пасаду трэнера, але ў камандзе ён будзе памочнікам трэнера. Пасаду галоўнага трэнера заняў **Дзмітры Ганчароў**. – Досведу трэнерскай работы ў Дзмітрыя пакуль няма, – тлумачыць Аляксандр Любанец, – каманда “Маладзечна-2013” будзе першай у трэнерскай кар'еры Дзмітрыя. Сезон для каманды пачнецца ўжо ў нядзелю, 27 красавіка. Каманда “Маладзечна-2013” будзе гуляць у гасцях каманды “Нёман” з горада Масты. Склад каманды галоўны трэнер агучыць у пятніцу, 25 красавіка. На наступным тыдні ў продаж паступяць абанементы на дамашнія гульні каманды. Абанемент можна будзе набыць у касе стадыёна. Яго кошт – 200 тысяч рублёў.

### Выстава вілейскага мазаіста працуе ў Валожыне

**ВАЛОЖЫН.** Выстава вілейскага мастака-мазаіста **Аляксандра Зубрыцкага** адкрылася ў Валожынскім краязнаўчым музеі. Аляксандр Зубрыцкі працуе ў вельмі незвычайнай тэхніцы, – распавёў навуковы супрацоўнік музея **Уладзімір Пучкоў**, – ён выкладвае свае карціны бітым на мелкія аскепкі шклом, кожны кавалачак шкла бярэ пінцэтам. Адна з улюбёных тэм мастака – беларускія касцёлы. У нашым музеі можна будзе пабачыць каля 20 прац майстра. Выстава прадоўжыцца да 12 мая.

### З-за электраправодкі згарэла кватэра

**АСТРАВЕЦ.** Пажар адбыўся 22 красавіка ў жылым доме на вуліцы Валадарскага, 23. На момант пажару ў кватэры знаходзіўся сябар гаспадара. Ён і заўважыў агонь на кухні, папрасіў суседзяў выклікаць выратавальнікаў і пакінуў кватэру. Выратавальнікі ў лічаныя хвіліны справіліся з полымем. Пажарам пашкоджаная мэбля ў кухні, бытавыя прыборы, закапціліся сцены і столь. Ніхто з людзей не пацярпеў. Папярэдняя прычына пажару – няспраўная электраправодка, – распавёў “РГ” інспектар групы прафілактыкі на аб'ектах АЭС **Юры Шаўцоў**.

**Аддзел інфармацыі.**



# Аўталаўка вязе сок-перчык і смактухі

## “РГ” правяла дзень у краме на колах

**МАЛАДЗЕЧНА. Карэспандэнты “РГ” правялі дзень з аўталаўкай. Вёскі Еленка, Гойжава, Кайтэні, Пазнякі, Бортнікі, Уша, Навасёлкі праехалі мы разам з кіроўцам і прадаўцом Сцяпанам Парфенюком.**

– Хапун будзе! – запэўнівае нас Сцяпан, адчыняючы дзверы крамы на колах. – Перад святамі заўсёды так, іншая справа, калі б вы са мной зімой паехалі. Даводзіцца выходзіць з машыны і грукаць у вокны, каб хоць хтосьці падышоў да аўталаўкі.

Прадавец спрытна ўскоквае ў машыну і мы рухаемся з месца. Пакуль мы едзем, Сцяпан дае кнігі скаргаў і прапаноў.

“Ужо ў каторы раз цукар не расфасаваны, а толькі ў мяшках. Мы не можам узяць мяшок цукру. Мы пенсіянеры ўсе. І навошта мне 50 кіло цукру? Адкуль такая безадказнасць?” – скардзіцца **Славамір Каўрыга**.

А на наступнай старонцы, ужо ў прапановах, іншы жыхар наадварот просіць, каб прывозілі цукар менавіта ў мяшках.

– Чаму толькі адна просьба ў кнізе? – пытаемся ў Сцяпана.

– Я ўсё запамінаю, у аўталаўцы працую ўжо 12 гадоў. Вядома, ведаю і мясцовых жыхароў. Вось сёння вязём аднаму цэмент.

### За сокам-перчыкам і цукеркамі-смактухамі

Пад'язджаем да вёскі Еленка. На лаўцы аўталаўку ўжо чакаюць мясцовыя жыхары.

– Сёння іх надзвычай многа, – адзначае прадавец.

– Чаму не забароняць бабам курыць? – абураецца бабуля, седзячы асобна ад усіх на бервяне. – Паслухайце бабіну параду: жыццё цудоўнае, нашто яго самім скарачаць.

– Сцёпа, ці ёсць у продажы дрожджы? – пытаецца хтосьці ў прадаўца.

– І дрожджы прывёз, і булак напёк.

– А мяса чаму зялёнае?

– А, гэта я ў траве выкачаў, – жартуе Сцяпан, падаючы мяса з зялёнымі прыправамі.

Як і прагназаваў Сцяпан, гандаль ішоў на ўсю моц. Бралі велікодныя пірагі, булкі, хлеб, смятану, малако адразу па тры пакеты, кілбасу прасілі без сала, замарожаную курыцу, сыр, “цукеркі-смактухі” і ваду салодкую…

– А мне соку-перчыку, – просіць адна пакупніца.

– Перчыку ў сэнсе персіка? – здагадваецца гандляр.

– Так, перчыку, перчыку.

Тут па “перчык” усе пайшлі станавіцца ў чаргу ўжо па другім коле.

– Сцяпан у нас харошы, не лаецца, – кажа пакупніца. – А быў тут перад ім адзін, дык казаў: “Бабы! Як вы мне надакучылі! Чаго вы па тры разы ў чаргу становіцеся?”

– А чаму кагор не купляеш? – размаўляюць жанчыны.

– А я свайго кагору націснула.

– Дарэчы, а колькі сёння віно каштуе?

– 23 тысячы самае таннае, – кажа Сцяпан.

– А ё-маё, ужо 23 тысячы, – абураецца **Галіна**. – Вось у мяне 36 гадоў працоўнага стажу. Я ветэран працы. А пенсію маю без 11 тысяч 2 мільёны.



Фота Настасі РОЎДЫ

Пакупніца з вёскі Гойжава выбірае, якую макарону зварыць на вячэру.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

**Працяг на 3-й старонцы.**

БУДОЎЛЯ

# Ашмяны пашыраюцца на захад

**АШМЯНЫ. У сераду, 23 красавіка, у Ашмянскім райвыканкаме закончылася грамадскае абмеркаванне генплана квартала шматкватэрнай забудовы на захадзе горада.**

– Жыхары выказвалі свае прапановы і па тэлефоне, і ў каментарах на сайце раённай газеты, – распавядае **Ірына Рамэ**, начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Ашмянскага райвыканкама. – Актыўнасць не вельмі высокая, але была. Вядома, кожны хацеў бы каля дома дасканалую інфраструктуру. Разумеем, што так было б зручна для іх. Але мы тлумачым, што глядзім на перспектыву, як горад будзе развівацца, каб новыя аб'екты былі зручнымі для ўсіх.

Забудову спраектавалі, гэты праект абмяркоўвалі з жыхарамі. Заўвагі ад жыхароў разгледзіць спецыяльная камісія, якая вырашыць, што з іх варта прыняць. Пасля магчымых карэкціровак праект пададуць на экспертызу.

Новая забудова будзе прылягаць да вёскі Будзёнаўка, якая ў перспектыве ўвойдзе ў мяжу горада як частка мікрараёна Заходні. На гэтай тэрыторыі плануюць размясціць вялікі аптовы цэнтр.

Адна з прапаноў тычыцца стадыёна. Яго плануюць размясціць у межах былой школы ў Будзёнаўцы. Там зробяць футбольную, баскетбольную і дзіцячую гульнявую пляцоўкі.

Іншая прапанова – размясціць у новай частцы горада ЗАГС. Паводле генплана, яго месца ў цэнтры горада, таму перанос не плануюць.

Наступная прапанова тычылася кафэ. Жыхарам хацелася б, каб з'явілася месца, куды можна схадзіць адпачыць усёй сям'ёй. Такая магчымасць з'явіцца.

**Пабудуюць новую краму, у будынку якой будзе летняе кафэ.**

У адной з заўваг жыхары падказалі, што было б добра разбіць у новым мікрараёне парк, каб пагуляць пад дрэвамі, пасядзець на лавачцы. Гэта пытанне вырашыць няпроста. Парк ёсць у цэнтры горада. А вось праз новы мікраараён пралягаюць шматлікія камунікацыі, якія можна пашкодзіць, калі засадзіць дрэвамі тэрыторыю.

– Таму зрабіць сапраўдны парк не атрымаецца, такая магчымасць у гэтай частцы горада не прадугледжаная, – тлумачыць Ірына Рамэ. – Аднак у кожным двары будзе абуладкаваная тэрыторыя, дзе можна будзе пасядзець на лавачцы, напрыклад, пад клёнам, будзе і дзіцячая пляцоўка. Магчыма, пазней знойдзем магчымасць добраўпарадкаваць тэрыторыю каля ракі, каб там можна было адпачываць.

Начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва ўдакладняе, што заўвагі пісалі жыхары, якія могуць быць не знаёмыя з будаўніцтвам, з правіламі забудовы. Але будаваць трэба рацыянальна і на перспектыву, з улікам інтарэсаў усіх гараджан.

Чатыры гады таму Ашмянскі райвыканкам выносіў на абмеркаванне забудову мікрараёна Заходні. З таго праекта засталося завяршыць будоўлю некалькіх шматпавярховак. Новы, сёлетні праект, таксама ўключае будоўлю шматкватэрных дамоў.

**На чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў у Ашмянах стаіць больш за тысячу ахвотных.**

У мікрараёне Заходні адчыніўся яслі-садок на 190 месцаў. Плануецца, што хутка ў заходняй частцы горада з'явіцца яшчэ адзін садок.

Што тычыцца платнай стаянкі, то яе палічылі незапатрабаванай. Літаральна праз дарогу ад яе будуюць гаражны кааператыў на 300 месцаў. Гэта дазволіць не пакідаць аўто ў дварах. Паставіць машыну ненадоўга можна на стаянцы каля крамы.

– У горада ёсць магчымасць будавацца, і месца дазваляе, і жадаючыя ёсць. Мы будуем для іх, у гэтым наша праца, – падсумоўвае Ірына Рамэ.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Дзмітрыя РАДКЕВІЧА.

**Ашмяны разрастаюцца на захад. Новыя дамы патрэбны жыхарам. Фота праекта забудовы мікрараёна Заходні.**

ТРАНСПАРТ

## Калі будзе парадак на чыгуначным пераездзе?

**ВІЛЕЙКА. Каб дабрацца на работу, выходзіць трэба за гадзіну-паўтары. І ўвесь гэты час прастаяць на чыгуначным пераездзе.**

З такой праблемай да нас у рэдакцыю звярнуўся віляйчанін **Расціслаў Васільевіч.**

– Бывае, стаіш раніцай на пераездзе хвілін 20, потым шлагбаум падымаецца, але пакуль папярэднія машыны праедуць, зноў загараецца чырвонае святло і шлагбаум перад самым носам апускаецца. А значыць, давядзецца яшчэ хвілін 15-20 стаяць. Канечне, ёсць пераезд на вуліцы Лаўрыновіча, але туды дарога быццам пасля бамбёжкі. А я не столькі зарабляю, каб пасля кожнай паездкі рамантаваць падвеску. Няўжо ніколі на пераездзе не будзе парадку? – пытаецца чытач.

У 2012 годзе "Рэгіянальная газета" пісала аб тым, што плануюць зрабіць тунэль на вуліцы Лаўрыновіча. Як сённня ідзе справа, запыталіся ў начальніка аддзела архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама **Галіны Кажарновіч**:

– Праект тунэля цяпер знаходзіцца на экспертызе ва ўпраўленні капітальнага будаўніцтва. Але, нават калі эксперты праект вытрымае, нам не справіцца сродкамі раённага бюджэта. Таму, як хутка вырашыцца праблема з чыгуначным пераездам у Вілейцы, будзе залежыць і ад таго, ці выдаткуюць нам сродкі з абласнога бюджэту.

Дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва Вілейкі **Аляксандр Крупскі** распавёў, што праект зараз знаходзіцца на распрацоўцы ў адной з мінскіх арганізацый. Плануецца, што ён будзе завершаны летам. Будаваць хутчэй за ўсё, пачнём ужо ў 2015 годзе. Аднак хачу ўдакладніць: гэта будзе не тунэль, а пуцеправод.

**Наталля ТУР.**

УЛАДА

## Прызначылі начальніка абласной міліцыі

**РЭГІЁН. Новы начальнік гродзенскай абласной міліцыі служыў у Мядзеле і кіраваў райаддзелам у Валожыне.**

Прэзідэнт Беларусі 18 красавіка прызначыў новага начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама. Ім стаў палкоўнік міліцыі **Вадзім Сіняўскі** (дагэтуль ён быў начальнікам Дэпартамента аховы Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі).

У свой час Вадзім Сіняўскі служыў у Мядзельскім райаддзеле ўнутраных спраў, а потым, у 2003-2005 гадах, кіраваў Валожынскім РАУС.

**Аддзел інфармацыі.**

**Шаноўны чытач!**
**Падпіска не заканчваецца.**
**Не губляй свой шанец – падпішыся!**

- навіны рэгіёна
- займальныя артыкулы і рубрыкі
- тэматычныя старонкі
- сустрэчы з цікавымі людзьмі
- зручная праграма
- магчымасць узяць удзел у рабоце над газетай у якасці Камент-экспертаў
- шмат рэкламы і аб'яў

***Падпісацца на "РГ" можна на пошце па ўсім рэгіёне.***

**Падпісны індэкс:**
**63212 (індывід.), 632122 (ведамасная падпіска)**

● РЭПАРТАЖ

# Аўталаўка вязе сок-перчык і смактухі

## "РГ" правяла дзень у краме на колах

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

**МАЛАДЗЕЧНА. Карэспандэнты "РГ" правялі дзень з аўталаўкай. Вёскі Еленка, Гойжава, Кайтэні, Пазнякі, Бортнікі, Уша, Навасёлкі праехалі мы разам з кіроўцам і прадаўцом Сцяпанам Парфенюком.**

Калі мы ўжо збіраліся ад'язджаць, мясцовая жыхарка **Вольга** запрасіла нас да сябе ў госці.

– Прырода ў нас тут прыгожая, паветра такое чыстае, што ад кіслароду галава закруціцца з непрывычкі. Праўда! Прыехала тут адна гарадская, дык прасіла мужа завесці машыну, газамі выхлапнымі падыхаць, каб галава перастала балець, а то кіслароду зашмат. Той завёў, яна падыхала і галава прайшла. Каб яшчэ вада была побач, то ўвогуле райскае мястэчка было б.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Жыхары Еленкі: чакаць аўталаўку весялей за размовай з аднавяскоўцамі.

### "Газет няма, бо шкада паштальёнку"

У вёсцы Гойжава Сцяпан спыняе аўталаўку проста пасярод дарогі.

– За дзесяць гадоў тут толькі аднойчы машына праяджала, – апярэджваючы наша пытанне, ці не будзе замінаць руху аўталаўка, адказвае Сцяпан.

Да машыны падыходзяць чатыры жанчыны. Усяго тут у вёсцы 7 жылых двароў. Жанчыны бяруць прадукты і кажуць:

– Газет мы не выпісваем, паштальёнку шкадуем. Ёй да нас шэсць кіламетраў на ровары ехаць.

**Аўталаўка ходзіць тры разы на тыдзень. Але Сцяпан лічыць, што гэта зашмат. Калі перад святам чатыры чалавекі выйшлі, то што казаць пра астатнія дні.**

### Ледзь не гналі палкай

Далей нас чакала вёска Кайтэні. Там сустракаў аўталаўку вельмі пільны жыхар:

– Журналісты? Дакументы трэба ў вас праверыць. Фатаграфаваць яны прыехалі. Зараз палку як вазьму ды паганю!

Але ўсё абышлося, з дзядзькам мы пасябравалі.

У вёсцы зімой тры чалавекі жывуць. Але цяпер вёска заварушылася, некаторых дачнікаў-пенсіянераў дзеці прывезлі аж да лістапада.

### У вёсках амаль не засталося кароў

У кожнай вёсцы праблемы і размовы ля аўталаўкі падобныя. І тэлеперадачы аднолькавыя абмяркоўваюць і на высокія цэны скардзяцца.

Што ж здзівіла нас? Тое, што ў вёсках амаль ніхто цяпер не трымае гаспадаркі. Амаль не засталося кароў, малако набываюць магазіннае. Свіней таксама мала хто трымае, бо няма каму іх даглядаць.

А яшчэ некалькі год таму, прыгадвае наш кіроўца, хлеба замаўляў ён па тысячы буханак, набывалі яго цэлымі мяхамі, каб скаціну карміць. А цяпер дорага, хаця б сабе адну буханку ўзяць.

Напярэдадні Вялікадня самым папулярным таварам у краме былі кулічы. Жыхары апошніх вёсак вельмі хваляваліся, што ім не хопіць.

– Чаму самі не выпякаеце? – пытаемся ў жыхара вёскі Уша **Пятра Рыгоравіча.**

– А хто сам цяпер пячэ? У дамах і печаў няма. Паразбіралі ўсе вялікія. Толькі з іх, толькі месца займаюць, а гатуем на газе. Пакінулі толькі невялікія печкі, каб хату абаграваць.

З кулічамі былі звязаны і Сцяпаны хваляванні. З гораду ўзяў 80 штук, але ў перадапошняй вёсцы яны скончыліся.

– Што не люблю ў сваёй працы, дык тое, што вельмі цяжка разлічыць, колькі ўсяго ўзяць, каб і хапіла ўсім, і не засталося на другі дзень. У суседняй вёсцы ў гэты час працуе мой калега **Андрэй Галушка,** трэба яму тэлефанаваць.

– У цябе з пірагамі таксама "галёшы"?

У Андрэя з 60 пірагоў засталося 15, іх ён і падвёз Сцяпану ў апошнюю вёску Навасёлкі. Такое ў аўталаўках здараецца. Кіроўцы мяняюцца прадуктамі, каб хапіла кожнаму пакупніку.



Фота Настассі РОЎДЫ.

"І дрожджы прывёз, і булак напёк" прадавец-кіроўца Сцяпан Парфянюк.

І пакупнікі ўдзячныя за гэтую ўвагу да іх патрэбаў. Нягледзячы на тое, што перад святочным "хапуном" аўталаўка затрымлівалася дзе-нідзе на гадзіну-паўтары, на кіроўцу не крыўдзяцца. Больш на нас, на газету: "Што ж вы недагледзелі, журналісты. Наш Сцяпан ужо 20 год працуе, а вы толькі цяпер пра яго пішаце".

**Наталля ТУР,**
**Настасся РОЎДА.**

## Як працуюць аўталаўкі

**Валеры Мандрык**, дырэктар маладзечанскай аўтабазы, адкуль адпраўляюць аўталаўкі, патлумачыў, што цяпер у іх працуе восем машын, на лета плануецца пусціць 11. Машыны прадуктамі камплектуюць тут жа, на аўтабазе працуе свой фасовачны аддзел. І хлеб, і малако прывозяць сюды.

Аўталаўкі працуюць шэсць дзён на тыдзень. Працоўны дзень у кіроўцаў пачынаецца а восьмай гадзіне раніцы, а вось калі скончыцца, залежыць ад колькасці вёсак на маршруце.

Кожная машына абсталявана трыма халадзільнікамі. Аўтабаза нядаўна набыла дзве новыя машыны. У хуткім часе плануюць набыць яшчэ дзве.

Калі раптам машына ламаецца, на дапамогу высылаюць спецыяльны цягач, да якога прычэпліваюць аўталаўку і такім чынам яна заканчвае свой маршрут. Гэта абавязковая ўмова каб жыхары вёсак не павінны засталіся без хлеба.

– На шчасце, такое здараецца вельмі рэдка.

Кіроўцы і прадаўцы аўталавак у адпачынак ідуць звычайна зімой, таму што летам вельмі напружаны графік, да звычайных маршрутаў дадаюцца яшчэ дачныя пасёлкі.

| Тавар | Цэны ў аўталаўцы | Цэны на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства |
|---|---|---|
| Цукар | 9600 | 9000 |
| Агуркі, памідоры | 27500 | 23000 |
| Сасіскі | 43900 | 52500 |
| Кураня-бройлер | 27200 | 26800 |
| Алей | 14050 | 14000 |
| Грэчка | 7350 | 8500 |
| Рыс | 10150 | 9700 |

| Курсы валют НБ РБ | 17.04 руб. | 24.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 940,00 | **9 970,00** |
| Еўра | 13 750,00 | **13 770,00** |
| Злоты | 3 284,38 | **3 293,96** |
| Літ | 3 985,57 | **3 998,64** |
| Расійскі рубель | 275,50 | **279,50** |
| Грыўня | 871,93 | **857,63** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9930/9970 | 9960 /10010 |
| Еўра | 13740/13810 | 13760/13850 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 16.04 | 23.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 52500 | **56600** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26800 | **26800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 77000 | **79000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | **29000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 33500 | **33500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 102000 | **102000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9700 | **9800** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **9000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13000** |
| **Алей "Кум"** | 14000 | **14500** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5300** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7500 | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 8000 | **9000** |
| **Капуста**, 1 кг | 15000 | **12000** |
| **Морква**, 1 кг | 7000 | **12000** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **17000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13000 | **12500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 22000 | **21900** |
| **Памідоры**, 1 кг | 23000 | **21900** |
| **Агуркі**, 1 кг | 23000 | **22500** |
| **Перац**, 1 кг | 35000 | **39000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 44500 | **45000** |
| **Бананы**, 1 кг | 17900 | **18500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10000 | **9900** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 16000 | **16500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **45000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 25000 | **25000** |
| **Сала**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Назваўся сантэхнікам, каб абрабаваць

## 75-гадовы мужчына не вытрымаў стрэсу і памёр пасля рабавання

**АШМЯНЫ. Скраў піва, ліманад і кілбасу, перарэзаў тэлефонны дрот і замкнуў дзядулю Фелікса звонку. На судзе 30-гадовы злачынца Пётр сцвярджаў, што яны нібыта часам пілі разам.**

Суд па гэтай справе адбыўся ў сакавіку ў Ашмянах.




Асуджанаму 30 год, але ён ужо мае пяць судзімасцяў.

### Са слоў асуджанага: часам пілі разам

Здарэнне адбылося 13 студзеня каля 17 гадзін.

Паводле словаў асуджанага, Пётр і Фелікс былі знаёмыя і раней, некалькі разоў пілі. 75-гадовы Фелікс часам запрашаў выпіць у сябе дома.

13 студзеня яны выпадкова сустрэліся каля крамы "Для Вас". Пётр прапанаваў выпіць, Фелікс запрасіў да сябе і пайшоў дадому. Пётр купіў пляшку гарэлкі і накіраваўся да знаёмага.

Але гаспадар чамусьці не пазнаў Пятра і не пусціў у дом. Тады маладзён назваў сябе сантэхнікам – і ўвайшоў.

У кватэры яны выпілі гарэлку, потым Пётр схадзіў яшчэ за адной пляшкай. Выпілі і яе, але было мала. Грошай на бутэльку не хапала, і маладзён папрасіў у гаспадара 10 тысяч рублёў. Гаспадар адмовіў. Пётр пачаў трэсці дзядулю, штурхаць і патрабаваць грошы. Але гаспадар не даваў.

Маладзён вырашыў сам знайсці грошы і скрасці іх. Надзеў пальчаткі і пачаў абшукваць кватэру. Агледзеў два халадзільнікі, шафы, тумбы. Грошай не знайшоў. Вярнуўся на кухню, дзе быў гаспадар і ўзяў з халадзільніка кавалак кілбасы, а таксама са стала – паўтарачку ліманаду і 0,5 піва.

Фелікс крычаў і патрабаваў усё гэта вярнуць. Злачынца пайшоў да дзвярэй. У прыхожай Фелікс яго дагнаў і схапіў за куртку.

**Маладзён штурхнуў дзядулю ў грудзі, той зваліўся спачатку на крэсла, а з яго – на падлогу. Гаспадар закрычаў, што выкліча міліцыю. Тады Пётр вярнуўся на кухню і абрэзаў тэлефонны дрот.**

Выходзячы з дому, злодзей ўзяў і ключы, каб звонку замкнуць дзядулю. Недзе каля дома ён выкінуў іх, выпіў піва і ліманад, з'еў кілбасу.

Маладзён заўважыў на судзе, што трапіў у кватэру, не плануючы крадзеж.

### З боку пацярпелых: абакраў невядомы

Калі гаспадар складаў пратакол у міліцыі, ён падкрэсліў, што раней маладзёна не ведаў, ніколі з ім не піў і ў той дзень піць з ім не дамаўляўся. Яго абакраў невядомы. А ў кватэру пусціў толькі таму, што той назваў сябе сантэхнікам.

Для дзядулі гэта быў моцны стрэс. Пра гэта распавёў на судзе яго сын. Пасля гэтай падзеі ён стаў горш сябе адчуваць. Праз 11 дзён, 24 студзеня, Фелікс пайшоў з жыцця.

Суд прызнаў Пятра вінаватым у рабаванні і прызначыў пакаранне – тры гады выпраўленчай калоніі строгага рэжыму.

### Пяць судзімасцяў у 30 год

Пятру 30 год. Нежанаты, не працуе.

У 2003 годзе суд прыгаварыў яго да двух год выпраўленчых работ з утрыманнем у бюджэт 25% заробку за разбой.

Праз паўгода за рабаванне яму прысудзілі два з паловай гады пазбаўлення волі. Тэрмін па амністыі скарацілі на год.

У 2006 годзе да трох год пазбаўлення волі яго прыгаварылі за рабаванне і спробу злачынства. У 2009 годзе яго вызвалілі ўмоўна-датэрмінова на паўгода раней.

Праз чатыры месяцы суд прыгаварыў яго на тры гады і тры месяцы за крадзеж і рабаванне.

У 2012 годзе суд прыгаварыў яго да пяці месяцаў арышту за крадзеж. У 2013 годзе яго вызвалілі ад адбыцця пакарання.

**Аляксандр ЛЯХ, памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

● СЛУЖБА 101

# Страты ад пажару ў Халмоўцы – 155 мільёнаў

**МЯДЗЕЛ. "РГ" паведамляла пра пажар, які здарыўся 6 сакавіка ў вёсачцы Халмоўка на Мядзельшчыне (15 за 11 красавіка).**

Тады з-за выпальвання сухой травы згарэлі жылы дом, лецішча, дзве лазні і тры хлявы.

Мядзельскі райаддзел Следчага камітэта ўзбудзіў крымінальную справу па факце неасцярожнага абыходжання з агнём.

Папярэдняя сума нанесенай шкоды перавышае 155 мільёнаў рублёў, паведаміла нашаму выданню афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Зараз шукаюць тых, хто мае дачыненне да гэтай справы. Вядуць працу з пацярпелымі, дапытваюць сведак, шукаюць віноўцаў.

Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці рэкамендуе ўсім грамадзянам, якія жывуць у сельскай мясцовасці або знаходзяцца на адпачынку на прыродзе, быць уважлівымі і пільнымі.

Вельмі важна выконваць неабходныя правілы пажарнай бяспекі пры правядзенні сельскагаспадарчых работ, спальванні смецця на дачных і прысядзібных участках. Памятайце, што гэта асабліва небяспечна пры моцным ветры.

**Аддзел інфармацыі.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Паехаў у госці – забілі

**ВІЛЕЙКА. Увечары 7 красавіка ў доме ў вёсцы Вузла забілі 38-гадовага жыхара вёскі Заазер'е Вілейскага раёна.**

Мужчына прыехаў у Вузлу ў госці. Падчас сваркі, што раптоўна ўзнікла пасля сумеснага распівання спіртных напояў, непрацуючы маладая гаспадар дома нанёс мужчыне два ўдары нажом у грудзі.

Спрабаваў аказаць ахвяры дапамогу, але раны аказаліся смяротныя.

Па факце забойства ўзбудзілі крымінальную справу. Жыхар вёскі Вузла арыштаваны. Праводзіцца следчыя дзеянні, накіраваныя на высвятленне ўсіх абставін здарэння, паведаміў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта **Аляксандр Штура**.

**Аддзел інфармацыі.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Падлеткаў асудзілі за пашкоджанне мемарыялу ў Куранцы

**ВІЛЕЙКА. 21 красавіка ўступіў у законную сілу прысуд у дачыненні да трох падлеткаў, якія пашкодзілі мемарыял ахвярам фашызму ў вёсцы Куранец.**

Кампанія з хлапцоў (дваім з іх было тады 15 год, аднаму – 14) учынілі злачынства 29 і 30 кастрычніка мінулага года.

Цяпер іх асудзілі за злоснае хуліганства, здзейсненае групай асоб.

Аднаму з іх суд Вілейскага раёна прызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на адзін год шэсць месяцаў, другому – адзін год (абодвум – з умоўным непрымяненнем пакарання з выпрабавальным тэрмінам на год).

Гэта значыць, што калі на працягу года яны не здзяйсняць злачынствы, будуць выконваць ускладзеныя на іх судом абавязкі, то не адправяцца ў месцы пазбаўлення волі, растлумачыў намеснік пракурора Вілейскага раёна **Віктар Гатоўка**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

### Шукаюць сведкаў аварыі ў Турэц-Баярах

**МАЛАДЗЕЧНА.** 17 студзеня каля 18 гадзін 20 хвілін здарылася аварыя ў вёсцы Турэц-Баяры на дарозе Маладзечна-Смаргонь.

Аўтамабіль "Аўдзі-80" пад нумарам 2562 ІН-4 наехаў на дзяўчыну. Яна пераходзіла дарогу справа налева па ходзе руху аўтамабіля па пешаходным пераходзе.

Просім сведкаў і відавочцаў звярнуцца ў дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС: вуліца Галіцкага, 23. Тэлефон 8(0176) 77-16-56, 74-53-43, 74-53-40 ці 102.

### Шукаюць гаспадара "Хорс-Мотарс"

8 красавіка на абочыне 69 кіламетра аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач знайшлі скутар маркі "Хорс-Мотарс" без рэгістрацыйнага знака.

Просім гаспадара ці тых, хто ведае, чый гэта скутар, звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС.

Вуліца Тамары Дудко, 1-18. Тэлефон 8(0176)74-53-40 ці 102.

### Праверацъ вучэбныя машыны

Ад 21 да 30 красавіка праходзіць аперацыя "Вучэбны аўтамабіль".

Яе ладзяць для павышэння падрыхтоўкі кіроўцаў, умацавання дысцыпліны аўтаінструктараў, узмацнення кантролю па правядзенні практычнага навучання.

Аперацыю праводзяць дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці, "Белдзяржтэхагляд" і Міністэрства транспарту і камунікацый.

### Папярэдзяць кіроўцаў на дзвух колах

25 красавіка пройдзе адзіны дзень бяспекі дарожнага руху.

Ён адбудзецца пад дэвізам "У новы матавеласезон без аварый!".

Яго мэта – прафілактыка ДТЗ з удзелам матацыклістаў, скутарыстаў, раварыстаў.

**Сяргей БАРТОШ, дзяраўтаінспектар маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● МУЗЕІ

# Адкрылі абноўлены музей яйка

**ВІЛЕЙКА. Яйкі з дрэва, каменя, гліны зноў можна пабачыць ў Вілейскім доме рамёстваў у вёсцы Ізбіно. Напярэдадні Вялікадня тут пасля рэканструкцыі адкрылі музей яйка.**

Гісторыя музея пачалася з інкруставанага саломкай яйка, якое зрабілі на сувеніры. Пакрысе калекцыя расла. І ў 2006 годзе ў цэнтры рамёстваў з'явіўся музей яйка.

– На той момант, мяркую, ён быў адзіны не толькі ў вобласці, але і ў рэспубліцы, – кажа дырэктара Дома рамёстваў **Ксенія Альфер**.

Тут сталі праводзіць абласныя майстар-класы па роспісе яек, ды і свае майстры папаўнялі калекцыю. Так што зараз у музеі захоўваецца больш за 300 яек розных памераў. Найбольшае – каля 30 сантыметраў у вышыню.

На іх намаляваны, наклеены і высечаны, розныя вобразы: арнаменты, выявы звяроў, пейзажы. Ёсць і рэлігійныя вобразы – аўтарка адмыслова дазвол у святара прасіла.

– А якія самыя цікавыя экспанаты? – запытаў Ксеніі Альфер.

– Напэўна, тыя, што пры адкрыцці музея ў 2006 годзе падараваў доктар мастацтвазнаўства, прафесар **Яўген Сахута** – традыцыйная пісанка з Украіны. І яшчэ вельмі цікавыя – зробленыя нашымі майстрамі ў тэхніцы традыцыйнай беларускай пісанкі, характэрнай для Цэнтральнага рэгіёну Беларусі.

А калі ў Доме рамёстваў летась пачалі рамонт, вырашылі пашырыць і па-новаму аздобіць музей. І цяпер кожны здалёку можа здагадацца, які тут музей знаходзіцца: шыльда зроблена ў форме вялікага яйка. Экспанаты размясцілі ў новым, большым памяшканні.

На адкрыццё абноўленага музея прыйшлі прадстаўнікі ўлады і госці. Для іх правялі майстар-клас па пісанках – навучала ахвочых майстар **Наталля Сідэрчык.**

І арка ў абноўленым музеі таксама зроблена ў форме яйка. Ужо некаторыя пыталіся, ці можна правесці цырымонію рэгістрацыі шлюбу менавіта пад ёй. Лічаць, што гэта вельмі сімвалічна, бо яйка сімвалізуе пачатак новага жыцця.

– Здаецца, простае яйка – а колькі цікавага з ім звязана, колькі ўсялякіх павер'яў у народзе было! – дзеліцца Ксенія Альфер. – І што калі заблукаеш у лесе, трэба з'есці велікоднае яйка з шалупіннем, тады адшукаеш дарогу дадому. А перад тым, як першы раз выгнаць скаціну на пашу, гаспадыня клала на парозе хлява яйка. Калі яно засталося цэлым – значыць, што для скаціны год будзе добры.

У абноўлены музей ужо завітваюць наведвальнікі. І вас запрашаюць – каб далучыліся да народнай культуры.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота забяспечана Ксеніяй Альфер.

**У музеі можна пабачыць распісаныя яйкі, якія нагадваюць выцінанкі. Стварыла іх Наталля Сідэрчык.**

● ВЫСТАВЫ

# Праводзіць экскурсіі будуць у ваеннай форме

**СМАРГОНЬ. Не сапраўдную, але стылізаваную ваенную форму апрануць супрацоўнікі смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея.**

У ёй будуць праводзіць экскурсіі па выставе да 75-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**Выстава запрацавала ў сераду, 23 красавіка. Доўжыцца яна будзе да 18 мая.**

– Экспазіцыя разлічана на дзяцей, таму паказаныя ў ёй асноўныя падзеі тых часоў, без паглыблення ў розныя дэталі, – тлумачыць дырэктарка музея **Любоў Белуш.**

### Гісторыя ў аўдыёзапісах

Супрацоўнікі намагаліся зрабіць экспазіцыю як мага цікавейшай. Яны распрацавалі аўдыёсуправаджэнне экскурсіі, каб стварыць адчуванне знаходжання ў тых падзеях. Аб'ява аб пачатку вайны, ваенныя песні, гутаркі будуць гучаць у залах музея.

У экспазіцыі можна пабачыць шмат фотаздымкаў тых часоў, карты. Увесь падрыхтаваны матэрыял разбіты на тэматычныя раздзелы.

Пачатак вайны, абарона Брэсцкай крэпасці, захоп тэрыторыі Беларусі, палітыка акупантаў у дачыненні да жыхароў краіны, адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел.

Шмат увагі надзелена і з'яве калабарацыянізму.

– Гэта адзін з бакоў вайны. Былі людзі сярод нашага народу, якія падтрымлівалі палітыку немцаў, падтрымлівалі генацыд, халакост. Гэтыя людзі супрацоўнічалі з акупантамі, дапамагалі ім, з'язджалі ў Германію, – распавядае Любоў Белуш.

У экспазіцыі таксама паказаныя канцлагеры, гаворыцца пра асноўныя этапы плану "Ост".

Ад гэтага выстава пераходзіць да партызанскага і падпольнага руху. Паказаныя элементы партызанскага побыту, асобныя рэчы гэтых людзей. Далей выстава вядзе да вызвалення краіны, у прыватнасці, Смаргоні.

Не абміне экспазіцыя і ваенных подзвігі, сучасныя помнікі.

Можна пабачыць таксама ваенныя плакаты. Праўда, не арыгінальныя. Таксама форму савецкага салдата, адзежу ваеннапалонных.

**Музей не працуе: 24, 29, 30 красавіка, а таксама 1 і 9 мая. Уваход для дзяцей – 5 тысяч, для дарослых – 8 тысяч.**

Выстава будзе працаваць да 18 мая ўключна.

**Настасся РОЎДА.**

● КОНКУРСЫ

# Вызначылі лепшыя дзіцячыя ансамблі

**МАЛАДЗЕЧНА. Конкурс ансамбляў "Веснавы праменьчык" адбыўся 22 красавіка ў дзіцячай школе мастацтваў.**

Прафесійнае журы, у склад якога ўвайшлі кампазітары і выкладчыкі, на працягу ўсяго дня выбірала лепшых з лепшых.

У намінацыі " Вакальныя ансамблі" перамаглі вакальныя калектывы з Гомельскай і Салігорскай дзіцячай школы мастацтваў.

Гран-пры ў намінацыі "Электронная музыка" узяў калектыў "TAKE FIVE" з Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў. Кіраўнік **Уладзімір Яцыновіч**.

Дыплом першай ступені заваявала **Вікторыя Барысевіч** з Самахвалавічскай дзіцячай школы мастаставў у намінацыі "Мультымедыйныя праекты".

"Рэгіянальная газета" таксама адзначыла сваім прызам за педагагічнае майстэрства **Вольгу Лявіцкую**, кіраўніка ансамбля скрыпачоў малодшых класаў "Усмешка".

**Наталля ТУР.**

● КОНКУРСЫ

# З дзецьмі гулялі клоўны

**АСТРАВЕЦ. Супрацоўнікі астравецкага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі гулялі з дзецьмі ў касцюмах клоўнаў.**

Тэатралізаваную конкурсна-забаўляльную праграму "Цырк з'ехаў, а мы засталіся!" падрыхтавалі для вучняў трэціх і чацвёртых класаў гарадскіх школ, распавяла дырэктарка Астравецкага ЦТДіМ **Наталля Сянюць.**

Вясёлыя клоўны Чупа і Чупс паказвалі розныя трукі са спартыўнымі абручамі і прапаноўвалі паўтарыць гэта дзецям.

А клоўны Цік і Так разыгралі з хлопцамі бяспройгрышную латарэю. Ірыска прыцягнула дзяцей сваімі фокусамі з паветранымі шарамі. А напрыканцы арганізавалі танцы.

Праграму ладзілі 16 красавіка ў межах раённага этапу рэспубліканскага конкурсу гульнявых праектаў "Гуляюць дзеці – гуляем мы". Цяпер праграма ўдзельнічае ў абласным этапе гэтага конкурсу.

**Аддзел інфармацыі.**

# Перамог музычны ансамбль з Гальшанаў

**АШМЯНЫ. 18 красавіка ў аграгарадку Ракаў адбыўся трэці Адкрыты рэгіянальны фестываль-конкурс фартэпіяннай музыкі імя Міхаіла Грушвіцкага.**

У конкурсе бралі ўдзел сольныя выканаўцы, фартэпіянныя дуэты і змешаныя ансамблі.

Пераможцы і лаўрэаты атрымалі прызы і дыпломы.

Сярод пераможцаў ансамбль "Мелодыка" Гальшанскай дзіцячай школы мастацтваў.

Яго ўзнагародзілі Дыпломам І ступені. Кіраўніца ансамбля – **Наталля Каспяровіч.**

**Аддзел інфармацыі.**

СЯМ'Я

# Гвалт у сям'і: чаму маўчаць і чаму маўчаць НЕЛЬГА



Фота megashara.com.

Кадр з фільма Ралана Быкава "Я сюды больш ніколі не вярнуся".

**МАЛАДЗЕЧНА. Як дзеці трапляюць да педафілаў, з каго вырастаюць маньякі і іх ахвяры і адкуль у сем'ях з'яўляецца гвалт?**

Вучэбны семінар адбыўся ў маладзечанскім райаддзеле міліцыі ў чацвер, 17 красавіка ў межах рэспубліканскай акцыі "Дом без гвалту". Ён прысвечаны ўступленню ў моц закона "Аб асновах дзейнасці па прафілактыцы правапарушэнняў" ад 16 красавіка.

Сваім досведам па працы з праблемнымі сем'ямі падзялілася псіхолаг Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання насельніцтва **Алена Камісарук**.

Псіхолаг распавяла, што нямала сям'яў, у якіх сустракаецца гвалт. Сустракаецца ў першую чаргу псіхалагічны і фізічны, здараецца таксама эканамічны і сэксуальны. Ахвярамі становяцца тыя, хто не ў стане супрацьдзейнічаць, – жанчыны, сталыя людзі, дзеці, найчасцей да сямі год.

### Пабоі праз любоў

Агрэсар накоплівае негатыў, напрыклад на працы. Там ён не можа даць выхад эмоцыям, але яны нікуды не знікаюць. І тады грушай для біцця становіцца, напрыклад, яго дзіця.

Здараецца, ужо дарослыя людзі кажуць, што іх бацькі білі, затое яны сталі такімі выхаванымі і разумнымі. Такі прынцып – пакаранне ад любові, фізічная сіла як праява любові і кахання – разбуральна ўплываюць на дзіця. Менавіта з дзяцей, якім навязалі гэтую думку, вырастаюць вычварэнцы і маньякі. Яны апраўдваюцца, што кахалі сваю ахвяру, але так атрымалася, што забілі.

Калі над маленькім дзіцем здзяйснялі псіхалагічны і эмацыйны гвалт, яго жаданне даць адпор таксама не знікне. Яно таксама накопліваецца і выбухае, калі дзіця становіцца падлеткам і ўжо ў стане адказаць.

Алена распавяла, што ў яе практыцы быў выпадак, што сын збіваў маці так, што жанчына мусіла жыць у падсобцы. Высветлілася, што ў дзяцінстве яго дакладна гэтак жа караў бацька.

Дзеці з сям'яў, калі п'яны тата "выхоўвае" маму, звычайна і сваю сям'ю будуюць на такі ж узор. Іншага спосабу, як будаваць адносіны між мужчынай і жанчынай, яны не бачылі. Хлопчыкі з такой сям'і – патэнцыйныя агрэсары, дзяўчынкі – патэнцыйныя ахвяры.

**Абсалютна ў любой сварцы паміж татам і мамай дзіця вінаваціць сябе.**

Таму трэба патлумачыць дзецям, што вы пасварыліся і памірыліся, але дзіця не вінаватае і вы яго любіце.

### Вобраз ідэальнай сям'і

А вось калі сваркі ў сям'і сталі сістэмай, відавочна, што дарослыя самі не спраўляюцца і не ў стане вырашыць між сабой канфлікты. Тут павінны ўмешвацца міліцыя і іншыя структуры. Праблема ў тым, што вельмі складана знайсці сям'ю, у якой гвалт стаў сістэмай, на пачатковым узроўні.

Усе хочуць ствараць вобраз ідэальнай сям'і. І любая сям'я імкнецца замаўчаць свае праблемы. Пытанне гвалту тычыцца не толькі праблемных сям'яў. Гвалт адбываецца за зачыненымі дзвярыма і ўсёй сям'і за гэта потым сорамна. Сорамна бацьку, які працверазеў, сорамна маці, якая маскіруе сінякі, і асабліва сорамна дзецям.

### Шлях да педафілаў і порнасайтаў

Такія падзеі вельмі хутка адбіраюць у дзяцей упэўненасць у сабе і пачуццё ўласнай годнасці. Вярнуць гэтыя пачуцці надзвычай складана. Дзіцяці сорамна за бацькоў, таму яму складана пасябраваць з аднагодкамі, сяброў не прывядзеш дадому. Працней застацца сам-насам і шукаць у інтэрнэце тых, хто зразумее.

Адсюль узнікла новая праблема – гвалт праз інтэрнэт. Мала хто з бацькоў сочыць, чым займаюцца іх дзіці ў інтэрнэце. Між тым, менавіта праз сацыяльныя сеткі дзяцей-ахвяр падхопліваюць педафілы, якія заўсёды гатовы ўдзяліць ім час і ўвагу ў адрозненне ад бацькоў.

**Алена Камісарук раіць паставіць камп'ютар не ў дзіцячым пакоі, а там, дзе найчасцей бываюць бацькі. Напрыклад, у кухні ці зале. Можна займацца гаспадарчымі справамі і адначасова цікавіцца, чым займаецца дзіця.**

Бацькам варта патлумачыць, што дзеці могуць сустрэць такіх людзей, якія могуць быць небяспечнымі. І калі дарослыя прапаноўваюць сябраваць, няхай дзеці раскажуць пра гэта вам.

– Станьце самі для свайго сына ці дачкі сябрам! – раіць Алена Камісарук. – Пасварыцца, выказаць заўвагі заўсёды паспееце. А вось зразумець, прыняць дзіця трэба своечасова, інакш можаце згубіць шанец.

Калі пад уплыў педафілаў трапляюць дзеці з праблемных сям'яў, яны могуць здымацца ў парнаграфічных фільмах, каб атрымаць грошы. Але такое здараецца і з дзецьмі з заможных сем'яў. У іх акружэнні гэта можа стаць модай, яны могуць параўноўваць, з чыім удзелам больш ролікаў выклалі ў інтэрнэт.

Самы небяспечны перыяд у падлеткаў – 12-13 год, калі чалавек выплёсквае накопленае. Калі прымушаць маўчаць – гэта выкліча яшчэ большую рэакцыю.

### Прыйдзіце, папужайце

Псіхолаг заўважыла, што многія ахвяры не хочуць працаваць з праблемай: "Мяне сын б'е – вы павінны яго лячыць", "Мой сын добры, толькі п'е, яго лячыць не хочуць", "Прыйдзіце, папужайце мужа, толькі не кажыце, што гэта я прасіла, скажыце, што суседзі пазванілі". Але толькі сумесная праца агрэсара, ахвяры і псіхолага можа дапамагчы вярнуць лад у сям'ю, пакуль не позна.

Напрыканцы свайго выступу Алена прапанавала паглядзець шакуючы фільм "Я сюды больш ніколі не вярнуся" Ралана Быкава, каб міліцыянеры ўбачылі праблему гвалту ў сям'і знутры і больш уважліва ставіліся да яе.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ЗДАРЭННІ

## На Мядзельшчыне гарэлі хлеў і "Масквіч"

**МЯДЗЕЛ** Два пажары адбыліся на Мядзельшчыне 20 красавіка практычна ў адзін і той жа час.

Пасля сямі гадзін вечара выратавальнікам паступіла паведамленне пра загаранне хлява ў вёсцы Нарач (Кабыльнік), паведаміў інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Сакалдынскі.**

У выніку агнём пашкоджаныя сцены і дах хлява, знішчана прыбудова да яго і прыбіральня, якая знаходзілася побач.

Адна з мяркуемых прычын пажару – дзіцячае свавольства з агнём.

А ў гэты ж час на абочыне аўтадарогі Мінск – Мядзел гарэў аўтамабіль "Масквіч-412". Адбылося гэта паміж вёскамі Каліначка і Ліпава.

### Выгараў салон машыны

Нумароў на "Масквічы" не было. Так што высвятляецца не толькі прычына загарання, але і ўладальнік аўтамабіля.

**Аддзел інфармацыі.**

## Заязджаў задам на "Івецы" і спыніў рух на паўгадзіны

**МАЛАДЗЕЧНА.** Кіроўца перагарадзіў вуліцу Буйніцкага, калі спрабаваў заехаць у двор знаёмага.

У гэты момант "Фольксванген" хацеў праскочыць, але зачапіў грузавік.

Здарэнне адбылося апоўдні ў чацвер, 17 красавіка.

Некалькі рэйсавых аўтобусаў мусілі чакаць каля 20 хвілін, пакуль прыедуць супрацоўнікі ДАІ.

**Аддзел інфармацыі.**

 






Каля Рады Еўропы ў Страсбургу на адным месцы адначасова праходзяць дзве акцыі: у падтрымку Майдана і ў падтрымку Расіі.



Украінскі сцяг на дзіцячым вазку.

# Чым Еўропа можа дапамагчы Беларусі?

**З такім пытаннем звярталіся прадстаўнікі краін-удзельніц Рады Еўропы да групы беларускіх журналістаў, якіх запрасілі ў Страсбург.**

Нам прапанавалі назіраць выступленне Камісара па правах чалавека, скайп-канферэнцыю з былым супрацоўнікам ЦРУ і Агенцтва нацыянальнай бяспекі ЗША Эдвардам Сноўдэнам. Самымі эмацыйнымі былі дэбаты ў Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы (ПАРЕ) па рэзалюцыі, прынятай паводле справаздачы "Апошнія падзеі ва Украіне: пагрозы функцыянаванню дэмакратычных накірункаў".

У Парламенцкай асамблеі прадстаўнікі ўсіх краін-удзельніц на падставе дакладаў дэпутатаў прымаюць рэзалюцыі і рэкамендацыі, уносяць папраўкі і галасуюць за ці супраць іх.

Назіральнікаў запрашаюць на трыбуны над парламентарыямі. Праз шкло мы бачылі як на далоні, як яны прымаюць рашэнні міжнароднага ўзроўню.

Самымі ажыўленымі былі дэбаты па украінскім пытанні. Прадстаўнікі Украіны дзякавалі за падтрымку. Прадстаўнікі Грузіі праводзілі паралель паміж сённяшнімі падзеямі на Украіне і канфліктамі ў Грузіі ў пачатку 90-х гадоў.

**Прадстаўнік Венгрыі прапанаваў, калі ўжо пайшоў перадзел еўрапейскай тэрыторыі і парушанае Хельсінгскае пагадненне аб непарушальнасці межаў, то чаму б не далучыць Закарпацце да іх? Аднак выклікаў абурэнне: парламентарыі стукалі па сталах.**

Прадстаўнік Расіі заўважыў, што ён адзіны, хто ведае, што такое сапраўдная акупацыя, таму што перажыў вайну. Некаторыя выступоўцы прапаноўвалі ўнесці змяненні ў справаздачу па Украіне, адзін прапанаваў замяніць дакладчыкаў. Кожнага выступоўцу пачулі, кожнаму было адведзена тры хвіліны.

Страсбург дазваляе быць пачутым кожнаму проста на вуліцы. Каля будынка Рады Еўропы некалькі дзён праводзілі акцыі прыхільнікі Майдана, і тут жа, на адлегласці метра, праводзілі акцыю тыя, хто падтрымліваў далучэнне Крыма да Расіі.

## Уплыў Рады

Прадстаўнікі Рады Еўропы адзначалі, што Беларусь асабліва цікавіць іх. Краіна застаецца плямай пасярод Еўропы як няўдзельніца Рады і як краіна, дзе прымяняецца смяротнае пакаранне.

Менавіта смяротнае пакаранне парушае асноўны прынцып Еўрапейскай канвенцыі аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод — права на жыццё.

Рада Еўропы таксама вітае ўзмацненне ролі грамадзянскіх арганізацый і іх уплыву на заканадаўчыя рашэнні. Менавіта дзякуючы грамадскім арганізацыям, якія дапамагалі ў супрацьдзеянні гандлю людзьмі, у свой час значную надалі менавіта рабоце з ахвярамі трафікінгу.

## Беларусь на міжнароднай арэне праз расстрэл віляйчаніна

Рада працуе ў кірунку развіцця прававога заканадаўства краін-удзельніц, культурнага абмену паміж імі, абароны правоў чалавека. Нягледзячы на высілкі еўрапейскай супольнасці ў сферы правоў чалавека, мы бачым, што проста цяпер дзве краіны-ўдзельніцы ў ваенізаваным канфлікце. У межах ПАРЕ ўведзеныя абмежаванні для Расіі. Але Рада не можа спыніць канфлікт.

З іншага боку, Беларусь, не ўваходзячы ў Раду Еўропы, ўваходзіць у ААН. Гэта значыць, што кожны грамадзянін Беларусі мае права падаць зварот у Камітэт па правах чалавека ААН. Беларусь мае абавязацельствы як удзельніца аб'яднання не караць смерцю чалавека, пакуль яго зварот не разгледзяць.

Менавіта такі зварот у ААН падаў 23-гадовы Павел Сялюн з Вілейкі, прыгавораны да смяротнага пакарання.

Ён не дачакаўся адказу з Камітэта па правах чалавека ААН. Як паведамляе праваабарончы цэнтр "Вясна", 18 красавіка яго расстралялі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**
**Больш фота і відэа глядзіце на сайце**

Rh.by

## ЕС рашуча асудзіў пакаранне смерцю віляйчаніна

Вярхоўны прадстаўнік ЕС па замежных справах Кэтрын Эштан "рашуча асудзіла" прывядзенне ў выкананне ў Беларусі смяротнага прыгавору Паўлу Селюну з Вілейкі.

Адпаведная заява размешчаная на сайце Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў, паведамляе БелаПАН.

— Вярхоўны прадстаўнік усведамляе сур'ёзнасць злачынстваў, за якія ён (Сялюн) быў асуджаны. Аднак яна не лічыць, што смяротная кара можа быць калі-небудзь апраўданая. Еўрапейскі саюз выступае супраць смяротнай кары пры любых акалічнасцях, — цытуе Эштан Еўрапейская служба знешніх дзеянняў.

У паведамленні адзначаецца, што смяротная кара — жорсткае і негуманнае пакаранне, якое не здольнае выступаць як фактар стрымлівання і сабой адмаўляе чалавечую годнасць.

"Вярхоўны прадстаўнік патрабуе, каб Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая па-ранейшаму прымяняе смяротную кару, — далучылася да сусветнага маратория на смяротную кару як да першага кроку на шляху яе поўнай адмены", — падкрэсліваецца ў паведамленні.

Паводле звестак "Міжнароднай амністыі" і кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнай кары ў Беларусі", за апошнія 20 гадоў у краіне пакарана больш за 400 чалавек. У адказ на заклікі праваабаронцаў увесці мараторый на смяротную кару або адмяніць яе ўлады спасылаюцца на вынікі рэферэндуму 1996 года, падчас якога большасць беларускіх грамадзян выступілі за захаванне смяротнай кары.

**Паводле БелаПАН.**



У дзень слухання даклада па ўкраінскім пытанні.



Мінакі бачаць адразу дзве акцыі.



У Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы выступае Камісар па правах чалавека.

**Даведка "РГ". Рада Еўропы** — міжнародная арганізацыя. Яна спрыяе супрацоўніцтву паміж краінамі Еўропы ў сферы прававых і заканадаўчых стандартаў, правоў чалавека, дэмакратычнага развіцця, а таксама культурнаму ўзаемадзеянню. Заснаваная ў 1949 годзе. У склад уваходзяць 47 краін. У тым ліку – Літва, Польшча, Украіна, Расія, Турцыя, Грузія. Рада Еўропы не ўваходзіць у эканамічнае і палітычнае аб'яднанне Еўрапейскі Саюз. Рада Еўропы не мае паўнамоцтваў, каб выдаваць законы, абавязковыя для выканання. Арганізацыя можа ацэньваць сітуацыю ў краінах у сферы правоў чалавека, а таксама даваць рэкамендацыі. Беларусь – кандыдат у члены Рады Еўропы.
Асноўны момант, які не дазваляе ўступіць у міжнародную супольнасць – захаванне смяротнай кары. Адмена ці мараторый смяротнага пакарання – абавязковая ўмова, якую выканалі ўсе цяперашнія ўдзельнікі Рады.



 

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Сашка чацвёрты год змагаецца з хваробай



Фота забяспечана Наталляй МАЦКЕВІЧ.

Чатырохгадовая Сашка з усяе моцы імкнецца пераадолець хваробу.

**МЯДЗЕЛ. Аляксандры Якушэнка з курортнага пасёлка Нарач (Купа) зусім хутка споўніцца чатыры гады. Амаль усё свае жыццё яна змагацца з хваробай...**

### У тры месяцы адбылося незразумелае

Мая Сашачка нарадзілася здаровай дзяўчынкай. Але ў тры месяцы адбылося нешта незразумелае. Саша перастала есці, ўся абмякла, перастала трымаць галаву. А калі я брала дачушку на ручкі, то яна глядзела невідушчым позіркам. Павезлі яе ў Дзіцячую клінічную бальніцу ў Бараўлянах, і там паставілі дыягназ гідрацэфалітны сіндром.

Пасля лячэння вадкасць з галаўнога мозгу сышла, але на фоне гідрацэфаліі застаўся ДЦП. Спачатку для мяне гэта было вельмі страшна: не ведала, што рабіць, куды звяртацца, давяла сябе да нервовага знясілення.

Але потым вырашыла, што мы будзем змагацца з гэтай хваробай і абавязкова яе пераможам. Спачатку зрухі ў лячэнні былі невялікія, але калі мы пачалі лячыцца ў Мінскім гарадскім рэабілітацыйным цэнтры, Сашка адразу "пайшла наперад" хуткімі тэмпамі. Займалася з задавальненнем з лагапедамі, псіхолагамі, музычнай тэрапіяй, вельмі старалася на лячэбнай фізкультуры.

### Зрухі да лепшага ёсць!

За два гады Сашачка шмат чаго дабілася: сядзіць сама, стаіць каля апоры самастойна, ходзіць з падтрымкай. Яна ў нас як праменьчык сонца залаты! Устане з раніцы заўсёды з усмешкай і адразу ж злазіць з рук, каб хадзіць.

**У яе вочках столькі надзеі, столькі жыцця, ёй хочацца ўсё рабіць. Яна і падлогу мне падмятае, і пыл выцірае, і заўсёды абдыме і пашкадуе мяне. Яна мая душа, маё сэрца, у яе пачуццяў і паняццяў больш, чым у дарослага чалавека.**

Сашцы вельмі падабаецца займацца з дэфектолагам: маляваць, ляпіць, разглядаць малюнкі і фатаграфіі. Яна з лёгкасцю паказвае ўсё на малюначках, і вельмі радуецца, што ў яе атрымліваецца. Сашка вельмі любіць музыку. Музычныя праграмы гатовая глядзець гадзінамі, асабліва тыя, дзе выступаюць дзеткі, махае ім ручкамі, падтанцоўвае. Дома грае на дзіцячым піяніна, ксілафоне, барабане і вочкі яе свецяцца ад шчасця.

Яшчэ Сашачка любіць дзяцей. Гатовая з імі гуляць суткамі, хоча паспець за імі ў садзе, але на жаль, ножкі не слухаюцца. Але яна стараецца. Хоць бачу, што стамілася ўжо, усё адно з маёй дапамогай не ідзе, а проста бяжыць. Па прыступках без стомы гатовая падымацца.

**Я часам дзіўлюся і цешуся адначасова: столькі сілы, цярплівасці, жыцця, старання, сілы волі ў такой маленькай дзяўчынкі.**

### Шукаюць дапамогу для прадаўжэння рэабілітацыі

Адзін курс рэабілітацыі мы прайшлі ў Трускаўцы (Украіна) на метадзе **Уладзіміра Казяўкіна** ад 24 снежня мінулага да 5 студзеня гэтага года. Пасля лячэння Сашка стала нашмат больш рухомая, уважлівая, пачала садзіцца на кукішкі, у ножках з'явілася больш сілы і упэўненасці.

Наступны курс нам прызначылі на 16 чэрвеня. Рахунак на лячэнне складае 3712 еўра. Самастойна мы такую суму сабраць не можам, бо я не працую, увесь час знаходжуся і займаюся з Сашачкай. Робім усё магчымае і немагчымае, наколькі хапае сіл, каб Сашка паправілася.

Яна вельмі стараецца, ёй хочацца бегаць і размаўляць, але на жаль, яна гэтага пакуль не можа. Але мы не губляем надзею і рухаемся наперад, хоць дробнымі крокамі, але рухаемся! І на гэтым шляху будзем удзячныя за вашу дапамогу.

**Наталля МАЦКЕВІЧ, мама Сашы, к. п. Нарач (Купа).**

**Даведка "РГ". Гідрацэфальны сіндром** – інакш называюць вадзянкай галаўнога мозгу. Цэрэбраспінальная вадкасць празмерна скапліваецца ў мозгу.

## Як можна дапамагчы

Рэквізіты дабрачыннага рахунку ў цэнтры банкаўскіх паслуг № 619 ААТ "ААБ "Беларусбанк" г. Мядзел, вул. Набярэжная, д. 4, УНП 600198997, МФО 153001769

– **БЕЛАРУСКІЯ РУБЛІ** – транзітны рахунак №3819382190343 на дабрачынны рахунак №000009 у цэнтры банкаўскіх паслуг № 619, бестэрміновы;

– **РАСІЙСКІЯ РУБЛІ** – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак № 000005 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы;

– **ДОЛАРЫ ЗША** – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак № 000025 у цэнтры банкаўскіх паслуг № 619, бестэрміновы;

– **ЕЎРА** – транзітны рахунак №3819382108410 на дабрачынны рахунак №000002 у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы.

**Назначэнне плацяжу:** Мацкевіч Наталля Рыгораўна, на лячэнне і рэабілітацыю дачкі Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны.

Адрас для паштовага перавода: *222395, Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Мядзельскі раён, к. п. Нарач, вул. Кастрычніцкая, д. 13, кв. 28, Мацкевіч Наталлі Рыгораўне.* Назначэнне плацяжу: на лячэнне і рэабілітацыю дзіцяці Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны згодна з выпісаным эпікрызам №21777/573 і пасведчаннем серыі 09 №0431282.

Картка Беларусбанка 4255200037125143 да 11.17; картрахунак 637000489.

Кантакты: **8 (017 97) 47-0-84** – дамашні тэлефон, **+37529 256-75-32** – Наталля, мама Сашы.

● ЭКАЛОГІЯ

# Штрафы за браканьерства павялічаць ўтрая

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 26 чэрвеня павялічваюць тарыфы за незаконную здабычу дзікіх жывёл у Беларусі.**

У сярэднім тарыфы павялічацца ўтрая. Кожны асобны від залежыць ад таго, якую каштоўнасць жывёла мае для прыроды.

Тарыф за незаконную здабычу дзіка, казулі ці зайца павялічыцца ўдвая. Аленя і лася – больш, чым у тры разы, бабра – застанецца ранейшымі.

**Цяпер штраф за незаконную здабычу лася 95 базавых велічынь (14 мільёнаў 250 тысяч рублёў). Пасля 26 чэрвеня ён павялічыцца да 400 базавых (цяпер гэта 60 мільёнаў рублёў).**

На аснове тарыфаў разлічваюць памер урону, які незаконная рыбалка ці паляванне нанесла навакольнаму асяроддзю.

За апошні час кошт дазволу на здабычу некаторых паляўнічых жывёл, напрыклад, ласі, наблізіўся да сумы штрафа за незаконную здабычу.

Для змякчэння пакарання на судзе многія браканьеры добраахвотна вярталі буйныя сумы ўрону на наступны дзень пасля затрымання.

Парушэнне тарыфаў прымусіць парушальнікаў закона перагледзець планы на паляванне.

**Кірыл ЧАБАН, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

● ЭКАЛОГІЯ

# Налета запрацуюць ужо 10 ветракоў

**СМАРГОНЬ. Гэта цалкам магчыма, лічыць намеснік старшыні Смаргонскага райвыканкама Аляксандр Бажыдай.**

Два ветракі непадалёк ад Крэва адкрылі 17 красавіка. Чатыры пабудуюць сёлета. Налета плануюць усталяваць яшчэ чатыры. Такім чынам, ужо праз год агулам іх можа быць дзесяць.

Як зазначыў Аляксандр Бажыдай, на Смаргоншчыне ёсць больш за 20 пляцовак, на якіх можна ўсталёўваць ветракі.

### Якія ветракі ўсталявалі

Два ветракі, якія месцяцца непадалёк ад Крэва – першыя на Смаргоншчыне.

Магутнасць кожнага з іх – 600 кВт/г. Вышыня – 72 метры, як 20-павярховы дом. Ветраўстаноўка пачынае працаваць пры ветры 3,5 метра ў секунду. Для параўнання, на гэтым тыдні, 21–25 красавіка, хуткасць ветру трымалася ў межах 4–6 метры ў секунду.

Пры 25 метрах у секунду ўстаноўка спыняе працу – выводзіць лопасці ў "флюгернае становішча", каб не было разбурэнняў.

Інвестарам для пабудовы ветраўстановак выступіла беларуская кампанія. Усю электраэнергію, выпрацаваную ветракамі, набывае "Гродааэнерга".

**Цягам першых 10 гадоў дзяржава набывае энергію з павышальным каэфіцыентам 1,3. Гэта значыць, што калі 1 кВт энергіі каштуе 1330 рублёў, то энергію, выпрацаваную ветракамі, "Гроднаэнерга" набудзе за 1729 рублёў.**

Гэта прываблівае прыватныя кампаніі і стымулюе задзейнічаць альтэрнатыўныя крыніцы энергіі.

**Настасся РОЎДА.**

● ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Знайшлі парушэнні на фабрыцы дзвярэй

**ВІЛЕЙКА. Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю праверыў вілейскую фабрыку дзвярэй "Лаза".**

І знайшоў шмат парушэнняў.

### Знешні гандаль

Супрацоўнікі давалі няправільныя звесткі ў мытныя органы пра характар заключаных фабрыкай дамоў, а таксама відаў разліку.

### Будаўніцтва

Фабрыка выкарыстоўвала цэх для даробкі сталярных вырабаў, адміністрацыйна-бытавое памяшканне, кацельню з пяццю катламі.

Але па дадзеных бухгалтарскага ўліку яны лічыліся ў незавершаным будаўніцтве.

### Бухгалтарскі ўлік і статыстыка

Арэндаваныя 23 адзінкі абсталявання агульным коштам больш за 21 мільён рублёў былі не ўлічаныя.

Гэтаксама, як і будынак мехмайстэрні, камплектная трансфарматарная падстанцыя і агароджа на агульную суму 39 мільёнаў рублёў.

Недакладнасці былі таксама ў запаўненні формаў статыстычнай справаздачнасці аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці фабрыкі.

Указаная няправільная колькасць работнікаў, стан разлікаў арганізацый, колькасць запасаў прадукцыі. Дзесьці яны былі завышаныя, дзесьці заніжаныя.

Парушэнні знайшлі і ў парадку абыходжання з адходамі на вытворчасці.

### Штраф

За парушэнні "Лазу" прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці далі штраф у памеры 26 мільёнаў рублёў.

Трох працаўнікоў таксама прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу на суму 2 мільёны 80 тысяч рублёў.

Яшчэ дзевяць работнікаў прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці.

Матэрыялы праверкі накіравалі ў праваахоўныя органы для дачы прававой ацэнкі.

**Па інфармацыі Маладзечанскага міжраённага камітэту дзяржкантролю.**

● КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Адключылі ацяпленне

**ВІЛЕЙКА. У Вілейцы адключаць ацяпленне ў жылым сектары пачалі 18-19 красавіка.**

У гэты самы час адключылі і ў Маладзечне.

Таксама ў Маладзечне ад 21 да 25 красавіка адключылі гарачую ваду. Прычына – выпрабаванні на цеплавыя і гідраўлічныя страты.

**Аддзел інфармацыі.**

ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫЯ ГУЛЬНІ

# Каб следчыя гулялі ў брыдж, злачынствы раскрывалі б паспяхова

**МАЛАДЗЕЧНА. Чаму Маладзечна лічыцца сталіцай брыджа, як прайграць самому і не даць выйграць уласнаму сыну, чаму шведы гуляюць у спорт, які прыдумалі ў Маладзечне, распавядзе брыджыст і шахматыст, суддзя першай катэгорыі Яўген Чаеўскі.**


Фота Наталлі ТУР.

Яўген Чаеўскі ведае, як паставіць мат саперніку за тры хады.

У брыдж у Маладзечне іграюць ужо больш за 20 гадоў, а пачалося ўсё са звычайнай цікавасці хлопца.

– Я прачытаў у часопісе "Навука і жыццё", што Гары Каспараў і Анатоль Карпаў па дарозе на нейкі шахматны чэмпіянат igралі ў брыдж. Як гэта такое можа быць, падумаў я, яны гуляюць, а я не ведаю, што за гульня такая. Напісаў у рэдакцыю часопіса, яны адказалі, што трэба пісаць у "Камсамолку", напісаў туды. Адтуль прыслалі дапаможнік, я даў аб'яву ў газету, што набіраю групу па спартыўным брыджы. Прыйшло 100 чалавек, мы разам і вучыліся.

Сёння ў брыдж гуляюць 12 маладзечанцаў. У асноўным, кажа Яўген Фаміч, гэта інтэлігенцыя: інжынеры, канструктары.

– Прасілі прадстаўнікі нашага следчага камітэта навучыць іх гульні ў брыдж. Вось у хуткім часе выйду на пенсію і зноў пачну трэніраваць моладзь.

**– Чым брыдж можа дапамагчы ў працы следчых?**

– Брыдж без прыўкрасаў самы інтэлектуальны від спорту. У ім нічога не залежыць ад выпадку, працуе толькі логіка. Вось у брыдж і гуляюць, каб працавала галава. У многіх еўрапейскіх школах брыдж уваходзіць у абавязковую праграму. Яму вучаць як матэматыцы, фізіцы, логіцы.

**– Брыдж і шахматы – гэта спорт? Калі трымацца таго, што спорт – гэта хутчэй, вышэй, мацней?**

– Брыдж і шахматы – гэта спорт. І справа нават не толькі ў тым, што гэта асаблівыя інтэлектуальныя віды спорту. Паспяховым шахматыстам і брыджыстам не будзе той, хто ігнаруе фізічную нагрузку. Вы маркуеце, можна праседзець восем гадзін за сталом, не маючы пэўнай падрыхтоўкі? Я так скажу: добры шахматыст той, хто паспяховы ў іншым спорце: плаванні ці бегу.

**– Гульня ў брыдж можа доўжыцца 8 гадзін?**

– Так, калі гэта, напрыклад, фінальная гульня ягога чэмпіянату. Толькі не партыя, якая доўжыцца 7 хвілін, а ўся гульня. Пад час чэмпіянату калода раздаецца 64 разы. Для гульні ў брыдж выкарыстоўваюць калоду з 52 картаў.

**– У алімпійскую праграму брыдж уваходзіць?**

– А як жа! У якасці галоўнага трэнера зборнай Беларусі па брыджы я ездзіў на Алімпійскія гульні ў Пекіне. У Лондан наша каманда, на жаль, не паехала. Высокіх вынікаў мы ў Пекіне не паказалі, але тое, што мы ўдзельнічалі – гэта ўжо вялікае дасягненне. Ва ўсёй краіне ў брыдж прафесійна гуляюць каля 100 чалавек. Для параўнання, у Польшчы брыджыстаў прыкладна 10 000.

## Праз мяне сын прайграў

У брыдж Яўген Чаеўскі гуляе і па выхадных з сябрамі.

– Калі мы збіраемся гуляць у брыдж, кажам: " А ці не распісаць нам партыю ў робер?"

**– Як часта збіраецеся?**

– Кожную нядзелю ў нашым шахматным клубе. Да нас, бывае, прыходзіць столькі людзей, што не ўсім хапае месца. Нехта гуляе ў брыдж, нехта ў шахматы ці шашкі. Прыязджаюць да нас гульцы і з Валожына, і з Вілейкі. Вядомая справа, калі гуляеш з моцным сапернікам, сам робішся мацнейшым, калі са слабым – слабееш. А Маладзечна даўно лічыцца сталіцай брыджа. Тут жа, у шахматным клубе, праводзім і чэмпіянаты. Чэмпіянат Беларусі мы праводзілі ў сябе неаднаразова.

**У розны час брыджам захапляліся: Уінстан Чэрчыль, Маргарэт Тэтчар, Біл Гейтс, Амар Шарыф, Самэрсэт Маэм.**

**– Вашы дамашнія не скардзяцца на тое, што вы кожныя выхадныя бавіце за гульнёй, а не з сям'ёй?**

– Сын Андрэй у мяне сам брыджыст і шахматыст. А жонка крыўдавала. Я амаль ні аднаго 8 сакавіка не бываю дома. У гэты час чэмпіянат у Швейцарыі праходзіць. Але была адна гісторыя, пасля якой жонка са мной тыдні два не размаўляла.

Здарылася гэта на адным з турніраў па шахматах. Я ішоў недзе на 5 месцы, у майго сына якраз вырашалася, ці зойме ён 1 месца. Па жараб'ёўцы выпадае, што мы гуляем з ім адзін супраць аднаго. Калі я прайграю сыну – ён становіцца пераможцам. І раптам сын робіць такую недарэчную памылку! Ну як я мог такое даравацъ? Я скарыстаўся гэтым і выйграў гэту партыю. У выніку ў мяне 5 месца, у сына – 4. Выдала тады мне жонка! Як я мог не паддацца ўласнаму сыну? А ў мяне спартыўны азарт. Тут кожны сам за сябе.

**– Як вы ставіцеся да такога новага віду спорта, як шахбокс?**

– Шахбокс – гэта калі спартсмены раунд на рынгу, раунд у шахматы гуляюць? Адмоўна. Нельга сумяшчаць несумяшчальнае. Наша галава – гэта той жа камп'ютар. Ну што будзе, калі кулакамі надаваць па камп'ютары? Мы прыдумалі свой від спорту, які, дарэчы, стаў папулярным нават у Швецыі.

Правілы такія: спартсмены гуляюць адну партыю бліц у шахматы, другую – у шашкі, трэцюю – у шашкі-паддаўкі. На ўсе даецца 10 хвілін. У Швецыі дзіцячую зборную трэніруе беларус. Мы ездзілі туды на турнір, паказалі нашу гульню, шведам спадабалася. Так што, Маладзечна не толькі цэнтр брыджа, але і новага спорту, якому яшчэ трэба будзе прыдумаць гучную назву.



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08 @mail.ru

ГАРАДКІ

## Маладзечанцы знаёмілі мядзяльчан з гарадкамі

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтр наведаліся аматары гарадошнага спорту з Маладзечна: і юныя, і дарослыя. Пазнаёмілі яны дзяцей і настаўнікаў фізкультуры з Мядзельшчыны з такім відам спорту як гарадкі.**

– Мэта ў нас адна: імкнёмся развіваць гарадкі ў Беларусі, – адзначыў намеснік старшыні Беларускай федэрацыі гарадошнага спорту, старшы трэнер аддзялення гарадошнага спорту Маладзечанскай спецыялізаванай СДЮШАР **Аляксандр Кулак.** – Многія ў Мядзеле з інтарэсам успрынялі гульню ў гарадкі, мы нават правялі міні-турнір. Запрасілі дзяцей паспаборнічаць, потым і настаўнікі паспрабавалі свае сілы. Заўсёды робім акцэнт на тое, што гэты від спорту вельмі даступны. У гарадкі можна гуляць, пачынаючы літаральна з дзіцячага садка. І ў той жа час на пляцоўцы можна ўбачыць бабуль і дзядуль.

**– Помніцца, яшчэ не так даўно ў Мядзельскім раёне гарадошны спорт развівалі ў Заняўскай школе...**

– Так. **Мікалай Петух** прапагандаваў гэты спорт. І мы туды прыязджалі, ён да нас прыязджаў. І яго хлопец трапіў у зборную Беларусі, выступаў на першынстве Еўропы. Так што мы робім другую спробу ў развіцці гарадошнага спорту на Мядзельшчыне.

**– На ваш погляд, якія перспектывы гарадошнага спорту ў Нарачанскім краі?**

– Мядзельшчына – месца, багатае на турыстаў. І па нашым меркаванні, яно перспектыўнае для развіцця гэтага спорту. Таму хочам штосьці зрабіць тут. І ў гэтай справе разлічваем на дапамогу энтузіястаў і настаўнікаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Маладзечанец Арцём Рынкевіч дэманструе мядзяльчанам, што гарадкі – даступны від спорту.

НАВІНЫ

## "Смаргонь" прайграла

**СМАРГОНЬ.** Першы матч чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе клуб "Смаргонь" правёў 19 красавіка ў Луніцы. Гулялі супраць мікашэвіцкага "Граніта".

Смаргонцы прапусцілі гол у самым пачатку матчу – на шостай хвіліне. На 27-й хвіліне яшчэ адзін мяч уляцеў у вароты ФК "Смаргонь".

У другім тайме, на 59-й хвіліне, футбаліст "Смаргоні" **Аляксандр Сямёнаў** адквітаў адзін мяч.

Пракаментаваў ход матчу галоўны трэнер ФК "Смаргонь" **Павел Бацюта** у інтэрв'ю fc-smorgon.by:

– Гэта былі два розныя таймы. У першай палове сустрэчы гаспадары не без дапамогі рыкашэтаў рэалізавалі два стандарты. У перапынку строіліся і больш нацэліліся на атаку. Сямёнаў, які выйшаў на замену, забіў адзіны гол у складзе нашай каманды. Далей мы кантралявалі ход гульні, але не здолелі дацісніць саперніка. Матч так і скончыўся з лікам 2:1.

## Лепшыя бегуны – дзеці з Будслава і Сырмежы

**МЯДЗЕЛ.** Раённы вясновы лёгкаатлетычны крос адбыўся 11 красавіка. У ім прынялі ўдзел школьнікі.

У групе "А", дзе спаборнічалі школы з большай колькасцю вучняў, перамаглі традыцыйныя лідары – навучэнцы Будслаўскай сярэдняй школы. У групе "Б" лепшыя вынікі паказалі дзеці з Сырмежскага сада-школы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

### Вілейка. Жыхары вёскі Асіпавічы дамагліся навядзення парадку

Учора пад пад'ездам нейкая кашолка мыла машыну. Лужына на ўвесь двор. Ну скажыце, як змагацца са свінствам усеабдымным!!! ДАІшнікаў вызываць ці памы на галаву выліваць? *Крык душы.*

Крык душы, свінства вам не падабаецца, а людзей называць непрыстойнымі словамі (кашолка) – гэта нармальна? *Чытач.*

А як называць чалавека, які свінячыць пад вокнамі? Гаспажа? *Крык душы*.

### "Іменем Рэспублікі Беларусь": расстраляны Павел Сялюн з Вілейкі

Усё не па-людску. А яшчэ выносяць прыгавор "Іменем Рэспублікі Беларусь". Я – таксама жыхарка Беларусі. Але цалкам супраць смяротнага пакарання. Дык чаму ж вы, паважаныя, у рэспубліцы, вырашаеце за мяне, што чалавека страляць трэба? А потым пішаце ўсё так, быццам і я, і тыя, хто лічаць, як я, з вамі гатовыя такія жарсці ўчыняць. Не гатовыя. Бесчалавечна гэта, як і злачынства хлопца. Няма грошай трымаць яго ў турме (ад нейкага свайго апанента я ўжо чула такі аргумент у апраўданне смяротнага прысуду)? Хай бы там працаваў ды на хлеб з той няшчаснай кашай сам зарабляў. Калі ў краіне няма грошай нават на такі мізэр. 21 стагоддзе на дварэ. Не толькі дэмакратычная Еўропа адмовілася ад такога пакарання, але і ўсе краіны СНД. Ізноў Беларусь чорная дзірка. Ужо ў каторы раз. *Ластаўка.*

### Каб у кавярні скарыстацца прыбіральняй, трэба праявіць дзівосы эквілібрыстыкі

Напэўна, у гэтай кавярні ёсць пастаянныя кліенты і пастаянны прыбытак, бо іх не цікавіць якасць паслуг. Час СССР ужо мінуў і не вернецца назад. Спадарства, мы плацім грошы за якасць паслуг і добрае абслугоўванне. Кавярням, магчыма, патрэбна жорсткая канкурэнцыя, каб развівацца. За такі кошт можна смачна паабедаць у многіх кафэ ў Мінску, напрыклад, кавярня "Меса сустрэчы", што на плошчы Перамогі і г.д. *Святлана.*

## ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Чаго вам не хапае ў крамах?

| | |
|---|---|
| 28%: | Ветлівага і ўважлівага стаўлення персаналу |
| 23%: | Добрай інфраструктуры: каб можна было пагуляць, зайсці ў кафэ, схадзіць у прыбіральню |
| 18%: | Нейкіх цікавых і незвычайных прадуктаў, спецый, напояў |
| 18%: | Прымальных цэнаў |
| 7%: | Шырокага выбару адзення і іншых нехарчовых тавараў |
| 2%: | Саміх крамаў - разнастайных па тэматыцы, утульных і індывідуальных. Надакучылі крамы-сеткі, у якіх адно і тое ж |

Усяго галасоў 38

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | 3 | | 5 | | | | |
| | | | 1 | 3 | | 7 | | 8 |
| | | | | | 6 | | 5 | |
| | | 9 | | | | | 4 | |
| 5 | 6 | 8 | | | | 2 | 9 | 1 |
| | 7 | | | | | 5 | | |
| | 3 | | 2 | | | | | |
| 4 | | 5 | | 1 | 3 | | | |
| | | | | 8 | | 1 | | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА

Фота Настасі РОЎДЫ.

Жанчына іграла ў нядзелю, на Вялікдзень, у маладзечанскім парку проста ў сваё задавальненне. Горад святкаваў: для дзяцей арганізавалі атракцыёны, можна было набыць у парку салодкую вату ці папкорн. У дадатак – запрацавалі фантаны. Некаторыя ўжо скарысталіся магчымасцю пасядзець проста на траве і пагрэцца на сонцы.

## РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Фантастычны баявік, прыгоды "**Новы Чалавек-павук: Высокае напружанне**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
25-26 красавіка – 21.00
27 красавіка – 15.00, 18.00
28 красавіка – 21.00
29 красавіка – 18.00
30 красавіка – 21.00
1 мая – 16.00, 21.00
Кошт білета – 45 000-55 000 рублёў.

Камедыя, прыгоды "**Хуткі "Масква-Расія"**", (Расія, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
25-26 красавіка – 19.00
27 красавіка – 21.00
28 красавіка – 19.00
29 красавіка – 21.00
30 красавіка – 19.00
1 мая – 19.00
Кошт білета – 40 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Рыа 2**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
26 красавіка – 14.00
27 красавіка – 13.00
29 красавіка – 13.00
30 красавіка – 14.00
1 мая – 14.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Фантастычны баявік, прыгоды "**Першы мсціўца: Другая вайна**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
25 красавіка– 16.30
26 красавіка – 16.00
29 красавіка – 15.00
30 красавіка – 16.00
Кошт білета – 55 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Гумарыстычны часопіс "**Ералаш № 264-272**"
26-27 красавіка – 14.30
29 красавіка – 14.30
1 мая – 14.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Гадкае качаня і я**" (Францыя, Германія, 2006, без узроставых абмежаванняў)
30 красавіка – 14.30
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Фантастычны трылер "**Вій**" (Расія, Украіна, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
25 красавіка– 16.30, 19.00
26 красавіка – 16.30
27 красавіка – 19.00, 21.30
28 красавіка – 21.30
29-30 красавіка – 16.30, 19.00
1 мая – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Баявік, драма "**Уцалелы**" (ЗША, 2013, дазволены гледачам пасля 16 год)
25 красавіка – 21.30
26 красавіка – 19.00, 21.30
27 красавіка – 16.30
29-30 красавіка – 21.30
1 мая – 16.30, 19.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (рэтра ў 2-х частках), *Ірына Пісьменная*
25 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Тры парсючкі**" (музычная казка), *І.Сідарук*
27 красавіка – у 12:00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП (25 КРАСАВІКА-2 МАЯ)

**Авен.** Нельга сказаць, што вы дабіваецеся галавакружных поспехаў, зусім не прыкладаючы намаганняў, але ў цэлым праца ўзнагароджваецца справядліва.

**Цялец.** Шмат што залежыць ад таго, ці здольныя вы аддацца лёсу абсалютна, адмовіцца ад барацьбы з непазбежным. Гэта зэканоміць вам сілы і фізічныя, і душэўныя.

**Блізняты.** Звярніце ўвагу на тое, як складваюцца вашы адносіны з блізкімі, таму што цяпер ёсць шанец вырашыць нейкія даўнейшыя праблемы, узнавіць узаемаразуменне.

**Рак.** У вас адкрываюцца новыя прафесійныя перспектывы, але гэта прымушае яшчэ больш адказна адносіцца да сваіх абавязкаў. Ды і патрабаванні растуць не па днях, а па гадзінах. Вы справіцеся.

**Леў.** Перыяд спрыяльны, але пахваляваца прыйдзецца. Асноўная прычыны перажыванняў – сумненні ў сумленнасці людзей, якім вы даверыліся.

**Дзева.** Вы ўсё перажываеце, сумняваецеся, ці правільна зрабілі, ці правільнае рашэнне прынялі. Ад гэтага псуецца настрой. Не перажывайце, будзьце ўпэўненыя ў заўтрашнім дні, і ўсё атрымаецца.

**Шалі.** Перыяд роўны, спакойны, ён дазволіць ўзнавіць сілы, заняцца тым, што даўно было запланавана. У вас не хапае веры ў сябе, у тое, што вы шмат што можаце.

**Скарпіён.** Перш чым пускацца ў рызыкоўныя прадпрыемствы, добра падумайце. Ад вашай насцярожанасці і кемлівасці будзе шмат што залежаць у будучыні. Лепш лішні раз усё праверце.

**Стралец.** Дабрабыт ваш напрамую залежыць ад вашых паводзінаў. Вас чакаюць новыя знаёмствы і сустрэчы, нешта такое, ад чаго вы будзеце ну проста ў захапленні.

**Казярог.** Навядзіце парадак у дакументах. Гэтым вы пазбегнеце лішніх непрыемнасцяў. Смела плануйце самыя разнастайныя справы, ваш энергетычны патэнцыял будзе высокім узроўні.

**Вадалей.** Вы атрымаеце адказ на даўно хвалюючае пытанне. Дзіўна, але ўсё акажацца значна прасцей, чым вы ўяўлялі.

**Рыбы.** Не прыспешвайце падзеі, бо вам будзе падзяка за доўгае цярпенне, яны парадуюць вас такімі прыемнымі наступствамі, а якіх вы нават і не марылі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень



## НАДВОР'Е

### 26 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 / +14 | | +5 / +16 | | +8 / +17 | | +11 / +18 | |
| | 748 | ↑ 2 | 745 | ↑ 3 | 741 | ↑ 6 | 735 | ↗ 8 |
| Вільня | +7 / +14 | | +6 / +18 | | +8 / +18 | | +10 / +18 | |
| | 758 | ← 4 | 753 | ↑ 3 | 748 | ↑ 6 | 742 | ↗ 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.44
Захад 20.36
Даўжыня дня 14.52

Усход 4.32
Захад 17.16
Квадра 4

| Горад | Ноч | Дзень | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +5 | +15 | 753 | ↓ 2 |
| Гродна | +8 | +18 | 750 | ↖ 6 |
| Мінск | +5 | +16 | 745 | ↑ 3 |
| Магілёў | +3 | +16 | 752 | ↙ 1 |
| Гомель | +6 | +18 | 755 | ↓ 1 |
| Брэст | +10 | +17 | 750 | ↖ 4 |

### ПРЫКМЕТЫ

- Тры дажджы ў красавіку і адзін у маі – тысячы дажджоў каштуюць.
- Была б вадзіца, а зелень народзіцца.
- 29 красавіка. Радаўніца – Вялікдзень мёртвых.

# ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што для Беларусі Еўропа?

**Міхаіл Ермаковіч, выкладчык музыкі, Вілейка:**

– Лічу, што добры сусед, партнёр. Беларусы і еўрапейцы адзін да аднаго павінны адносіцца з павагай, і гэта павага павінна быць узаемная.

**Антон Каласоўскі, пенсіянер, Мядзел:**

– Без Еўропы мы не зможам існаваць (як, зрэшты, і без Расіі). Бо ў Еўропе бяром усе самае перадавое. Нават і бульбу – сарты галандскія выкарыстоўваем.

**Валерыя Іванова, студэнтка, Маладзечна:**

– Па-першае, Еўропа для Беларусі – гэта цудоўнае месца для турызму. Там ёсць на што паглядзець. А, па-другое, можа быць, дзелавы партнёр? Мы ж актыўна спажываем еўрапейскія тавары. Хочацца спадзявацца, што і нейкая частка беларускіх тавараў радуе еўрапейцаў.

**Яўген Касцянкевіч, студэнт, Маладзечна:**

– Еўропа... Запаветная мара яна для беларуса. Хацелася б і адпачываць туды ездзіць і, як варыянт, папрацаваць там. Увогуле, хочацца не быць у Еўропе чужымі. Але з-за межаў і нятанных візаў, мы вымушаныя бачыць Еўропу толькі праз вэб-камеры у рэальным часе.

**Клаўдзія Аўрэйцавіч, пенсіянерка, Мядзел:**

– На мой погляд, Еўропа для Беларусі – добры партнёр. З еўрапейскімі краінамі мы ўзаемавыгадна гандлюем.

**Падрыхтавалі Алесь ВЫСОЦКІ, Наталля ТУР.**

# Чытайце праз тыдзень:

- **Краінай Вялікіх Азёр называлі Нарачанскі край амаль 90 гадоў таму. Якой убачылі перліну Павілля – Нарач – у 1929 годзе журналісты.**

### А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* Вадкі кісларод пры тэмпературы ніжэй мінус 190 градусаў падобны на ваду з моцным блакітным адценнем.

* Падчас поўнага сонечнага зацмення тэмпература ў цені можа панізіцца на шэсць градусаў.

* 600 вінаградзін ідзе для вырабу адной бутэлькі віна.

* Бактэрыя, якая выклікае батулізм, такая таксічная, што кілаграм яе можа забіць усіх людзей на планеце.



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 17 (991) 25.04.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак.363 . Падпісана ў друк у 10.00 24.04.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.